# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №12 (122)
ЖНІВЕНЬ 2012 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ДУМАЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ

**Нягледзячы на вялікую колькасць розных выданняў, не многія з іх можна аднесці да ліку тых, што падаюць аб’ектыўную, вартую ўвагі інфармацыю. “Наша Ніва”– якраз такое добрае выключэнне . І газета, і сайт( nn.by) – не проста пярэсты набор з навінаў і аналітыкі. Перадусім – гэта выразна канцэптуальныя выданні. І сто гадоў таму і зараз на іхніх старонках нацыянальна свядомыя грамадзяне распавядаюць свету пра сапраўдную Беларусь. Паразважаем пра Яе і мы з вамі.**

Штуршком для падобнай нагоды стаў найвыдатнейшы фотаздымак дасланы на сайт “ Нашай Нівы” адным з наведнікаў. Сэнсавая насычанасць гэтае выявы зашкальвае. Уражвае не толькі смеласць хлопца з нашым нацыянальным сімвалам у руках, уражвае сімвалізм натуры, якая падштурхоўвае да роздуму. Гэта і Беларусь, заціснутая паміж Усходам і Захадам, якая аднак не робіць заканамернага выбару; гэта і татальны нігілізм уласнага народа і ўлады, які нішчыць нацыянальную Беларусь … Як бачым, здымак сведчыць: ёсць людзі, якія не забываюць пра сваю любую краіну нават над прорвай, на адпачынку ў чужой краіне. Ёсць грамадзяне, якія памятаюць пра яе на хіміі, у турэмных камерах і карцэрах: Павал Севярынец, Мікола Статкевіч, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Аўтуховіч…



Але ж пераважная колькасць тутэйшых людзей з уласнае ініцыятывы пра Беларусь прыгадвае вельмі рэдка. Ды і што пра яе разважаць, скажаце вы, хай разважаюць тыя, каму з таго ёсць нейкая карысць. Уласная краіна губляецца ў віры жыццёвых праблемаў. Простыя беларус не адчувае за Яе амаль ніякай адказнасці. Не, канечне, кожны ўсведамляе.., што праз сваю працу ён робіць свой асабісты ўнёсак у пабудову “ моцнай і квітнеючай дзяржавы”. Але далей стэрэатыпаў справа не рушыцца.

А між іншым, нейкае падсвядомае адчуванне ненатуральнасці ўзаемадачыненняў паміж асобным беларусам і ягонай краінай ёсць. Пра гэта ўскосна можа сведчыць хаця б залішняя колькасць расстаўленых уздоўж дарог білбордаў з надпісам “ Я люблю Беларусь”. На жаль, гэта не голас народа, а ідэалагічнае ўсведамленне. Але тым не менш. Баюся толькі, што гэтае публічнае пераконванне ў любові хутчэй патрэбнае для самаапраўдання ці, яшчэ горш, для вачэй замежніка. Маўляў, хоць я і не гавару пабеларуску, не ведаю нацыянальных геніяў, культуры ды гісторыі краіны, цярплю хамскае да сябе стаўленне, абыходжуся без свабоды і не змагаюся за правы чалавека–усё адно я люблю Беларусь. Ну, прынамсі, мушу яе любіць, хаця падсвядома ўсведамляю: не зусім атрымоўваецца.

Сённяшняя атмасфера тутэйшага жыцця далёкая ад любові наогул і ад любові да ўласнай краіны таксама. Калі чалавек жыве па-за культурай, па-за грамадскапалітычнымі рухамі, дэмакратычнымі СМІ, нацыянальнай творчасцю, жыццё ператтвараецца ў безвыходнасць.

Мая знаёмая, працаўніца аднаго з віцебскіх банкаў, якой няма і пяцідзесяці, з вышэйшай адукацыяй, з вялікім прафесійным досведам распавяла мне чарговую гісторыю, чутую ўжо не раз з іншых вуснаў. Жанчыну чакае скарачэнне. З гэтай нагоды, загадзя, яе, як і ёй падобных (тых, якія не маюць блату, якія не закладваюць сваіх калегаў і г.д.) перавялі ў той аддзел, які мусяць закрыць. Адначасова з агучаным працэсам у банк за адпаведны хабар панабіралі новых працаўнікоў, якія толькі што скончылі ВНУ і якіх яшчэ трэба вучыць. Прафесіяналаў выкідваюць на вуліцу дзеля дадатковага прыбытку–сітуацыя падобная не толькі маёй знаёмай.

Ну, і дзе ёй у такой сітуацыі думаць пра Беларусь. Адзінае, што яна можа дазволіць сабе ў такой сітуацыі: не хадзіць на выбары. Крыўда ад несправядлівага да сябе стаўлення дазваляе ёй дзейнічаць па прынцыпе: як да мяне, так і я вас.

І хоць пратэст гэты, відавочна, не ўсвядомлены, ён дзіўным чынам супадае з пазіцыяй шмат якіх палітычных партый, што прапануюць байкатаваць сёлетнія парламенцкія выбары ва ўмовах адсутнасці роўных магчымасцяў для ўсіх удзельнікаў выбарчага працэсу і наяўнасці палітычных вязняў у тутэйшых турмах. Байкот яны лічаць адным з негвалтоўных метадаў змены існай на Беларусі ўлады і пабудовы дэмакратычнай дзяржавы.

Як аказваецца, думаць пра Беларусь не такая ўжо недасяжальная справа для простага чалавека заціснутага жыццём, як той адзінокі камень на дасланым здымку.

Што ж такое думаць пра Беларусь? Гэта дзейнічаць: усімі магчымымі простаму чалавеку сродкамі супрацьстаяць хлусні, хамству, нахабству ўлады… Сваімі свядомымі маральнымі словамі і ўчынкамі набліжаць сваю краіну да заходняй цывілізацыі, часткай якой Беларусь, безумоўна, і з’яўляецца.

**Рэдактар.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## “За што зязюля хваліць салаўя”…

**Здавалася б, друкаваныя сродкі масавай інфармацыі саступаюць пазіцыі сваім электронным аналагам. Аказваецца, як паведамляе на сваіх старонках “Жыццё Прыдзвіння”, начальнік пошты Іна Кладніцкая толькі ўсміхаецца з падобных сцвярджэнняў, маўляў, кампутарызацыя ніяк не адбілася на выкананні даведзенага плану па падпісцы. Кіраўскае аддзяленне яго перавыконвае.**

Газеты, сярод якіх само–сабой папулярнасцю карыстаецца «Жыццё Прыдзвіння», чытаюць і пенсіянеры, і працаўнікі сельскай гаспадаркі, і педагогі. Далей мы даведваемся, што ходзіць «районка» і ў аддаленыя населеныя пункты, а дзесяць вёсак, у ліку якіх і аграмястэчка, абслугоўваюць чатыры паштара.

З інфармацыі вынікае, што вяскоўцы атрымліваюць не толькі дописы, але і “ даюць замовы сувязістам на прадукты сілкавання, ад якіх торба прыкметна цяжэе. Тады вось паштары звяртаюцца да… калясак, узімку – да санак.”

Добра, што ёсць людзі, якія аддаюць перавагу друкаванаму слову перад словам электронным. Рашчульвае да слёз і фотаздымак начальніцы пошты, якая нібыта сустракае вяскоўцаў са свежымі навінамі. Добра і тое, што тыя навіны яшчэ некага цікавяць. Добра, але ўсё добра ў меру. Вядома ж з класікі, што ніякай асятрыны другой свежасці быць не можа. Так і з навінамі. У сучасным інфармаваным грамадстве любая навіна становіцца старой на працягу аднаго дня, калі ні хутчэй. Так, што газета тут саступае электронным навінам у разы.

Падобныя нататкі пра перавыкананне плана асоба ўзятым аддзяленнім могуць сведчыць выключна пра заняпад тутэйшага нашага жыцця.

Некалі ў часы “перабудовы” я і выпісваў процьму газетаў і часопісаў. У сённяшнім жа маім жыцці ім амаль няма месца. Чаму ж тады раёнка ўздымае гэтую тэму? Справа ў тым, што значная частка нашых суграмадзянаў з розных прычынаў не ўпісаліся ў рытмы сучаснага жыцця. Інтэрнэт з ягонымі інфармацыйнымі сайтамі не даступны, мясцовыя тэлевізійныя навіны саступаюць пальму першынства навінам расейскім, таму застаюцца газеты, а перадусім раёнка. Толькі праз яе ўлада можа яшчэ несці свае ідэалагічныя ўстаноўкі і замбаваць людзей. А пра тое, што падпіска ў гэтай дзяржаве прымусовая, і заікацца не трэба. Таму, думаю, зразумела, за што кукушка хваліць салаўя.

**Якаў Дрозд.**

ПАЛАТАЧНЫЯ ВЫБАРЫ

## Запісаны тэлевыступ могуць адмяніць

**Пад час запісу тэлевыступу кандыдат ў дэпутаты віцебскагі сацыял-дэмакрат з «Народнай Грамады» Аляксей Гаўруцікаў некалькі разоў дэманстраваў гледачам партрэт Мікалая Статкевіча і казаў, што патрабуе вызваліць з турмаў палітвязняў.**

Дырэктар Тэлерадыёкампаніі «Віцебск» заявіў, што спадар Статкевіч — «крымінальнік», і што будзе раіцца ў ЦВК, ці трансьляваць такі выступ апазыцыйнага кандыдата.

Аляксей Гаўруцікаў, даверная асоба Мікалая Статкевіча падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў, уключыў у сваю перадвыбарчую праграму патрабаваньне вызваліць палітвязьняў.

Пра гэта ён і казаў у сваім тэлевыступе: «Я казаў, што зьяўляюся членам аргкамітэту па стварэньні партыі „Народная грамада“, лідар якой Мікалай Статкевіч. Паказваю партрэт Статкевіча, кажу, што ён сядзіць у турме за пратэст супраць фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў. Кажу, што я выступаю за вызваленьне Мікалая Статкевіча і ўсіх палітвязьняў. І напрыканцы, калі разьвітваюся, кажу: „Да сустрэчы на выбарах. Жыве Беларусь! Свабоду палітвязьням!“ І зноў паказваю Мікалая Статкевіча».

Пасьля таго, як скончыўся запіс, распачаўся скандал, працягвае спадар Гаўруцікаў: «Я скончыў выступ, сяджу. Тут забягае мужчына і пачынае начальніцкім тонам тлумачыць, што я «ва ўмовах сучаснага рэжыму паказаў партрэт крымінальніка», і што гэта недапушчальна. Я спытаўся, з кім размаўляю. Ён адказаў:»Я дырэктар тэлерадыёкампаніі Камовіч. Давайце перазапішам ваш выступ». Я сказаў, што, як юрыст, добра ўсьведамляю, што я раблю. І што перазапісваць нічога ня буду!»

Спадар Гаўруцікаў мяркуе, што прэтэнзіі ў дырэктара тэлерадыёкампаніі «Віцебск» Анатоля Камовіча выклікала ня толькі дэманстрацыя партрэта палітвязьня Статкевіча. Бо такі самы партрэт трымала ў руках і кандыдатка ў дэпутаты Алена Фаміна, якая запісвалася на тэлебачаньні перад ім.



Аляксей Гаўруцікаў цытуе яшчэ адзін фрагмэнт свайго выступу: «Я пералічваў, што я дасьведчаны юрыст, што 7 год быў дэпутатам гарсавету, і потым сказаў, што выступаю за перамены ў краіне, аж да адстаўкі цяперашняга кіраўніка краіны, якога лічу вінаватым у эканамічным крызысе і ягоных сёньняшніх наступствах. Я мяркую, што вось гэтая фраза „напружыла“ дырэктара Камовіча!»

Выступ Аляксея Гаўруцікава, кандыдата па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18, павінна трансьлявацца па тэлебачаньні 27 жніўня. Але дырэктар тэлерадыёкампаніі сказаў, што мусіць узгадніць трансьляцыю з ЦВК.

У 2004 годзе Цэнтарвыбаркам ужо забараняў тэлевыступ Аляксея Гаўруцікава, які падчас пазамінулай парлямэнцкай выбарчай кампаніі дазволіў сабе пакрытыкаваць абласное кіраўніцтва. Тады ў ЦВК вырашылі, што ён абразіў вышэйшых службовых асобаў, трансьляцыю выступу адмянілі.

**Паводле Радыё Свабода.**

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ПАЛАТАЧНЫЯ ВЫБАРЫ

# ЧАТЫРОМ ПРЭТЭНДЭНТАМ АДМОЎЛЕНА Ў РЭГІСТРАЦЫІ

**Выбарчая камісія Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акругі № 20 зарэгістравала толькі 4 прэтэндэнты з 7, у тым ліку трох партыйных вылучэнцаў: ад партыі левых "Справядлівы свет" – Аляксандара Вінаградава, Аляксандра Дзядзінкіна – ад КПБ, Андрэя Рэзнічэнку – ад АГП.**

Не зарэгістравалі актывіста кампаніі "Гавары праўду" Сяргея Парсюкевіча і Ўладзімера Правальскага, у якіх выявілі недакладнасці ў пададзеных на праверку подпісах, а таксама Сяргея Рогалева, вылучэнца ад ЛДПБ, – у сувязі з несапраўднымі дадзенымі ў дэкларацыі пра прыбыткі і маёмасьць. Сяргей Парсюкевіч і Ўладзімер Правальскі звярнуліся са скаргамі ў ЦВК.

Актывіст кампаніі "Гавары праўду" Сяргей Парсюкевіч лічыць, што яго не зарэгістравалі знарок. Паводле вынікаў абедзвюх праверак, у падпісных аркушах нібыта знайшлі шмат недакладнасцяў, і таму подпісы прызналі несапраўднымі. Ён будзе аспрэчваць прынятае рашэнне, бо подпісы сапраўдныя, дый ніхто з людзей падчас праверак ад подпісаў не адмовіўся. Нейкія хібы знайшла пашпартная служба – гэта памылкі ў імёнах, адрасах і гэтак далей.

Удзельнік мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі Ўладзімер Правальскі заявіў у ЦВК, што акруговая камісія парушыла выбарчае заканадаўства: "У рашэнні камісіі напісана, што я здаў 1 024 подпісы, гэта яны самі прызнаюць. Пасля праверкі яны нібыта знайшлі 32 несапраўдныя подпісы. Гэта 16% ад колькасьці правераных, і таму камісія мусіла праводзіць дадатковую праверку. Аднак пра гэта ў рашэнні, дзе мне адмовілі ў рэгістрацыі, нічога не сказана. Яны зрабілі так: аднялі 32 ад 1 024, атрымалі 992 подпісы і запісалі, што мяне не падтрымала неабходная паводле заканадаўства тысяча грамадзян. Такога ў выбарчым заканадаўстве няма, каб штосьці за чагосьці адымаць. Гэта абсурд – адмаўляць на такіх падставах!"

Па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18 зарэгістраваныя кандыдатамі Аляксей Гаўруцікава з "Народнай Грамады", актывіст кампаніі "Гавары праўду" Аляксандр Мікулін, сябра ЛДПБ Анатоль Раўнейка і беспартыйны настаўнік Міхаіл Волкаў. Адмоўлена ў рэгістрацыі прадстаўніцы АГП Ірыне Яскевіч – камісія знайшла недакладнасці ў дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці.

У Віцебскай-Чыгуначнай акрузе № 19 зарэгістравалі ўсіх чатырох ахвотных стаць кандыдатамі ў дэпутаты парлямэнту. Гэта намеснік начальніка Віцебскага аддзялення чыгункі Сяргей Бохан і тры партыйныя вылучэнцы: ад Партыі левых "Справядлівы сьвет" зарэгістравалі Вадзіма Кузміна, ад Партыі БНФ – Кастуся Смолікава і ад ЛДПБ - Дзмітрыя Шчаглова.

Па Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акрузе № 17 таксама будуць балятавацца ўсе чацвёра ахвотных: дзейны дэпутат Палаты прадстаўнікоў Генадзь Грыцкевіч, Алена Фаміна, прыхільніца "Народнай Грамады" Мікалая Статкевіча, сябра партыі БНФ Аляксандар Кузняцоў і старшыня віцебскай абласной арганізацыі ЛДПБ Сяргей Ярмыкін.

Зарэгістравалі кандыдатамі ўсіх прэтэндэнтаў на ўдзел у выбарчай гонцы і ў Віцебскай сельскай акрузе № 21. Тут сярод кандыдатаў у дэпутаты дырэктар кадэцкай вучэльні Уладзімер Шыцько і двое партыйцаў: старшыня Гарадоцкай раённай суполкі партыі БНФ Леанід Аўтухоў і сябра ЛДПБ Ігар Цеплякоў.

КРЫМІНАЛ

# Негатыўная тэндэнцыя

**Аналіз стану законнасці і правапарадку ў першым паўгоддзі 2012 г. на тэрыторыі Віцебскага раёна выяўляе негатыўную тэндэнцыю росту дасканалых злачынстваў. За паўгоддзе іх лічба вырасла на 6,5% (з 337 да 359), у т. л. па лініі крымінальнага вышуку – на 15% (з 260 да 299).**

Узровень злачыннасці на 10 тысяч насельніцтва склаў 93,7 выпадкі і з'яўляецца самым высокім у вобласці (сярэднеабласны – 51,4%).

Высокі ўзровень злачыннасці шмат у чым абумоўлены той акалічнасцю, што на тэрыторыі раёна знаходзяцца 165 садоўніцкіх таварыстваў, якія сваёй слабой абароненасцю ў значнай ступені вабяць да сябе злачынцаў. Дачныя крадзяжы складаюць практычна кожнае чацвёртае злачынства.

Па звестках пракурора раёна, здзяйсненню крадзяжоў з кватэраў і прыватных хатаў грамадзянаў спрыяе вольны доступ да іх – такім чынам здзейснена больш за палову крадзяжоў. А вось у дачныя хаты зламыснікі часцей за ўсё трапляюць праз акно ці шляхам злому запорных прылад.

Рост злачынстваў адзначаны на тэрыторыі 8 сельсаветаў, у прыватнасці, Бабініцкі прыплюсаваў 17 выпадкаў, Кастрычніцкі– 14, Янавіцкі – 10, Лятчанскі –8.

Па прадмеце злачыннага замаху на дзяржаўную ўласнасць найбольш прывабнымі для зламыснікаў з'яўляюцца аўтамабільныя вузлы і агрэгаты, або прадметы з чорных металаў. Як правіла яны захоўваюцца ў лёгка даступным месцы, без вартаўнічай аховы. 9 з 15 крадзяжоў (60%) дзяржуласнасці здзейснена шляхам вольнага доступу. Аналагічным чынам выглядае сітуацыя і пры здзяйсненні крадзяжоў прыватнай формы ўласнасці юрыдычных асобаў, дарэчы, колькасць такіх злачынстваў павялічылася на 8.

Прыведзеная статыстыка сведчыць пра нізкую тэхнічную ўмацаванасць, адсутнасць належнай вартаўнічай аховы, а ў шэрагу выпадкаў – пра безгаспадарлівасць і безадказнасці кіраўніцтва прадпрыемстваў і арганізацый.

**Ян Сведка.**

УЛАДА І ЧАЛАВЕК

# Папярэджанне высасанае з пальца

**20 жніўня журналістка наведала Віцебскую абласную пракуратуру, дзе пракурор П.Зайцаў «апытаў» яе, а затым уручыў пісьмовае папярэджанне за подпісам намесніка пракурора вобласці старшага саветніка юстыцыі Г. А. Караньќо. Сябру «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Алену Сцяпанаву вінавацяць у супрацоўніцтве з замежным СМІ, якога… не існуе з 2002 года.**

Паводле паперы, пракуратура падпільнавала журналістку на «неаднаразовым ажыццяўленні падрыхтоўкі аўдыё- і відыёматэрыялаў, а таксама інтэрв'юяванні несельніцтва з мэтай падрыхтоўкі рэпартажаў, якія размяшчаліся ад імя замежнага СМІ - чэшскай рэдакцыі Радыя Свабодная Еўропа-Радыя Свабода на адпаведным інтэрнэт-сайце».

Хто праводзіў гэтую праверку і якім чынам здабываліся звесткі, пракурор Зайцаў тлумачыць журналісты не пажадаў, заявіўшы, што гэта інфармацыя ўнутранага карыстання. Адзіным матэрыялам, раздрукоўку, якога ен паказаў спадарыні Сцяпанавай, было апытанне 2008 г., дзе яна як незалежная журналістка дзялілася ўласным меркаваннем з калегамі на нейкую тэму. «Ен сказаў, што гэта з'яўляецца доказам супрацы з замежным СМІ», – распавяла Алёна прэс-службе ГА «БАЖ».

Алёна Сцяпанава збіраецца абскарджваць афіцыйнае папярэджанне найбліжэйшым часам. «Чэшская служба Радыя «Свабода», наколькі мне вядома, спыніла працу ў 2002 годзе. Таму я фізічна не магу з ёй супрацоўнічаць», - кажа яна.

Алёна стала 11-й па ліку журналісткай, якую афіцыйна папярэдзілі органы пракуратуры ў 2012 годзе. Толькі ў жніўні папярэджаных ужо трое – да Сцяпанавай гэта былі Таццяна Белашова і Генадзь Барбарыч.

# Колькасць забойстваў павялічылася

**Сёлета павялічылася колькасць забойстваў, дасягнуўшы на 6 жніўня 5-ці выпадкаў. Асноўным чыннікам здзяйснення такіх дзей з'яўляецца п'янства. Ва ўсіх выпадках, як пацярпелыя так і асобы, якія здзейснілі забойствы, знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.**

Абагульненне дадзеных фактаў паказала, што існая практыка папярэджання злачынстваў супраць жыцця і здароўя чалавека не адказвае прад'яўленым патрабаванням, праца суб'ектаў прафілактычнай дзейнасці не эфектыўная. Аналіз жа праваўжывальнай практыкі паказвае, што своечасовае выяўленне злачынстваў, спалучаных з прычыненнем цалевых пашкоджанняў, катаваннямі, пагрозай забойствам, прыцягненне вінаватых да адказнасці спрыяюць папярэджанню больш цяжкіх злачынстваў. Разам з тым, калі ў 2010 годзе па арт-м 153, 154, 186 УК Рэспублікі Беларусь было ўзбуджана 13 крымінальных справаў гэтай катэгорыі, у 2011 г. – 7, то ў бягучым –толькі 3. І тым не менш такое зніжэнне, хутчэй за ўсё, можа сведчыць не пра дасягненні ў барацьбе з побытавай злачыннасцю, а пра аслабленне прафілактычнай працы РАУС. З 35 да 23 зменшылася колькасць грамадзянаў, накіраваных у ЛПП, на дзве асобы менш абмежавана ў дзеяздольнасці.

**Ян Сведка.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# РЭКЛАМНЫ ТУР

**На прыкладзе турыстычнага патэнцыялу Віцебскага, Полацкага, Браслаўскага і Глыбокскага раёнаў у ліпені месяцы быў арганізаваны рэкламны тур для прадстаўнікоў турагенцтваў Расіі і Прыбалтыкі. Займальнае вандраванне па вобласці пачалося з Віцебскага раёна, а першым пунктам праграмы быў музей-сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва».**

Далей дэлегацыя накіравалася на прычал возера Доўжа, дзе яе чакаў сплаў на байдарках па маршруце возера Сосна– рака Лужаснянка– возера Цыганаўскае – возера Лосвіда.

3-за таго, што байдарак было толькі на дзесяць чалавек, а прадстаўнікоў тураператараў – больш за дваццаць, не першапачаткова ў першую чаргу маглі пакатацца на катамаранах, лодках і наведаць водныя атракцыёны.

Дарэчы, байдаркі, якія прапануюцца адпачывальнікам,– турыстычныя. Яны даволі ўстойлівыя, каб яе перавярнуць та, трэба вельмі пастарацца, так што сплаў на іх даволі бяспечны. Навучыцца ж кіраваць плаўсродкам можна за лічаныя хвіліны. Каманда тураператараў хутка асвойлася з вёсламі і адправілася ў вандраванне па азёрнай роўнядзі.

«Віцебскі» дзень скончыўся наведваннем сувенірных крамаў і шпацырам па горадзе, а назаўтра распрацоўшчыкаў турыстычных маршрутаў чакала паездка ў Полацак.

Чакаецца, што вынікам гэтага тура стануць новыя турыстычныя маршруты па Віцебскай вобласці і павелічэнне прытоку гасцей.

**Якаў Дрозд.**

ЗДАРЭННІ

# ТАКОГА ПАКАРАННЯ ПАТРАБУЕ ЗАКОН

**У адносінах да непрацуючага 50 гадовага жыхара в.Ляхі пракуратурай раёна была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 153 УК Рэспублікі Беларусь. А справа ў тым, што мужчына збіў уласную маці.**

Адсутнасць уласных сродкаў для існавання сынок кампенсоўваў за кошт матчынай пенсіі. Але ж пры ягоных апетытах і густах грошай заўжды не хапала. Тады ў адсутнасці грошай на бутэльку ён вінавацію скрайнюю: 74-гадовую жанчыну.

Без прэтэнзій не абыйшлося і на Вялікдзень, які пітух пачаў як звычайна – з хмельнай чаркі. На гэтым ён, зразумела, не спыніўся і ў хуткім часе накіраваўся ў краму. «Здаволіўшы смагу» не адыходзячы ад касы, вырашыў затарыцца празапас. Доўга не думаючы, узяў дзве на вынас.

Вярнуўшыся дахаты, пакінуў свае пакупкі ў двары, пра што пазней забыўся. А калі ўспомніў, накіраваўся да маці. Спачатку, як сам лічыць, па-добраму вывытваў, дзе тая хавае спіртное. Лаянка не дапамагла, і каб дакапацца да праўды, ужыў кулакі. У пакаламучаным розуме не было месца жалю, удары прыйшліся па твары, а пасля таго, як маці зваліласяся – і па ўсім целе. Нават тое, што бабулька паказала на «патаемнае» месца, не спыніла ката.

Старая праз сілу змагла дацягнуцца да тэлефона, каб прасіць дапамогі ў дачкі, якая пражывае ў абласным цэнтры. Тая выклікала «хуткую». Нават медыкі, выявіўшы ў пацярпелай сінякі на твары, нагах і спіне, уразіліся жорсткасці вылюдка. Амаль два тыдні жанчына правяла ў лякарні, але нават пасля гэтага не захацела прыцягнуць сына да адказнасці. У чарговы раз, ёй думалася – адумаецца…

Наўмысныя прычыненне цэлавага пашкоджання можа абярнуцца для сына-дэбашыра грамадскімі працамі, штрафам, выпраўленчымі працамі на тэрмін да аднаго года, ці арыштам на тэрмін да 3 месяцаў.

Такога пакарання патрабуе закон.

**Ян Сведка.**

# Прафілактычная работа не адпавядае вынікам

**У першым паўгоддзі непаўналетнімі здзейснена 15 наўмысных злачынстваў, што на 6 больш аналагічнага леташняга перыяду, з іх 13 – крадзяжы, 1 рабаванне, 1 ухіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі. Навучэнцамі школ раёна здзейснена 5 злачынстваў, акрамя таго, за школьнікамі значыцца 5 адміністрацыйных правапарушэнняў, спалучаных з распіваннем спіртных напояў, знаходжаннем у нецвярозым стане ў грамадскіх месцах.**

На 1 ліпеня на прафілактычным уліку ў ІСН знаходзіліся 68 падлеткаў-правапарушальнікаў. Камісіяй па справах непаўнагадовых сумесна з ІСН за 6 месяцаў праведзена 12 рэйдаў. У рамках акцыі «Сям'я без гвалту» наведана 135 сем'яў і 268 дзяцей, якія знаходзяцца у сацыяльна небяспечным становішчы.

Стан індывідуальнай і грамадскапрафілактычнай працы з непаўнагадовымі і сем'ямі, дзе падлеткамі здзейснены злачынствы і правапарушэнні, патрабуе арганізацыйных і практычных мер па падвышэнні ўзроўня прафілактыкі злачынстваў і правапарушэнняў з боку працаўнікоў сацыяльна-педагагічных і псіхалагічных службаў, аддзела адукацыі, ІСН.

**Ян Сведка.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЭКСПЕРТ: МІЛІНКЕВІЧ І НЕ МОГ ТРАПІЦЬ У ПАРЛАМЕНТ

ВА ЎМОВАХ КАНСАЛІДАВАНАГА АЎТАРЫТАРЫЗМУ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ ЯК АДЗІН З ЛІДАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ АПАЗІЦЫІ ТРАПІЦЬ У ПАРЛАМЕНТ. ТАК КАРЭСПАНДЭНТУ ТЭЛЕГРАФА ПРАКАМЕНТАВАЎ НЕРЭГІСТРАЦЫЮ ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ БЕЛАРУСКІ ПАЛІТОЛАГ АЛЕСЬ ШАМЯКІН. «У БЕЛАРУСІ ПАРЛАМЕНТ НЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА МЕСЦАМ, ДЗЕ АДБЫВАЕЦЦА ПАЛІТЫЧНАЯ БАРАЦЬБА», - АДЗНАЧЫЎ ЁН.

«Справа ў тым, што аўтарытарны рэжым выкарыстоўвае парламент і выбары для імітацыі дэмакратычнага працэсу, а таксама ў сваіх унутрырэжымных мэтах як, напрыклад, ганаровае завяршэнне кар'еры і гэтак далей. Пры такіх абставінах наяўнасць апазіцыі ў парламенце рэжыму проста не патрэбна», - адзначыў ён.

Паводле яго слоў, апазіцыя яшчэ ніколі не дамагалася поспеху на выбарах у Палату прадстаўнікоў. «Таму абсалютна не было ніякіх падставаў меркаваць, што на гэты раз кагосьці пусцяць у парламент. Дарэчы, гэта ўжо далёка не першы выпадак, калі апазіцыя памылкова ацэньвае магчымасць абрання ў парламент», - сказаў Алесь Шамякін, прывёўшы ў прыклад 2004 год.

«Распаўсюджанае меркаванне аб тым, што з'яўленне апазіцыі ў парламенце будзе спрыяць урэгуляванню стасункаў з Захадам, таксама з'яўляецца памылковым, бо беларускія ўлады яшчэ ніколі не выкарыстоўвалі дадзеную магчымасць для дыялогу з Захадам. Для рэжыму важней захаваць маналітнасць палітычнай сістэмы, што важна для стабільнасці аўтарытарнай улады. Куды больш верагодным сцэнарам для пачатку нармалізацыі адносінаў з Захадам з'яўляецца вызваленне палітвязняў, чым пропуск апазіцыі ў парламент», - падкрэсліў палітолаг.

Камісія Уручскай выбарчай акругі № 109 22 жніўня адмовіла ў рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў дэпутаты лідару Руху «За Свабоду» Аляксандру Мілінкевічу. У акружкаме заявілі са спасылкай на крыміналістаў з міністэрства ўнутраных спраў, што больш за 15% сабраных палітыкам подпісаў аказаліся несапраўднымі.

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫБОРЫ В ПАРЛАМЕНТ БЕЛАРУСИ - СПЕКТАКЛЬ С ИЗВЕСТНЫМ ФИНАЛОМ

КАМПАНИЯ ПО ВЫБОРАМ В БЕЛОРУССКИЙ ПАРЛАМЕНТ ПРОХОДИТ ПО ПЛАНУ ВЛАСТЕЙ. ПЕРВЫЙ ЕЕ ЭТАП ПОКАЗАЛ, ЧТО МИНСК ПРИВЫЧНО УПРАВЛЯЕТ ИЗБИРАТЕЛЬНЫМ ПРОЦЕССОМ С ПОМОЩЬЮ АДМИНИСТРАТИВНОГО РЕСУРСА, СЧИТАЕТ НАТАЛЬЯ МАКУШИНА. ПЕРВЫЙ ЭТАП ПАРЛАМЕНТСКОЙ КАМПАНИИ ПОКАЗАЛ, ЧТО МИНСК НЕ СОБИРАЕТСЯ ОТКАЗЫВАТЬСЯ ОТ ИСПОЛЬЗОВАНИЯ АДМИНИСТРАТИВНОГО РЕСУРСА ДЛЯ УПРАВЛЕНИЯ ИЗБИРАТЕЛЬНЫМ ПРОЦЕССОМ. ДЕЙСТВУЯ ПО НАРАБОТАННОМУ ПЛАНУ, БЕЛОРУССКИЕ ВЛАСТИ ОБЕСПЕЧИВАЮТ ДОСТИЖЕНИЕ НУЖНЫХ ИМ ИТОГОВ ВЫБОРОВ В ПАЛАТУ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ, КОТОРЫЕ СОСТОЯТСЯ 23 СЕНТЯБРЯ.

### Декорации для наблюдателей

События вокруг выборов в белорусский парламент напоминают спектакль с заранее известным финалом - в итоге опять победят кандидаты от власти. Судя по развитию ситуации, Минск не собирается менять политическую систему, а формальные признаки либерализации использует в качестве декораций по примеру выборов президента в 2010 году.

Признаков таких немного. В Беларусь приглашена миссия ОБСЕ - 36 человек для долгосрочного наблюдения и 270 краткосрочных наблюдателей. Пользуясь изменениями в законодательстве, политические партии на этих выборах проявляют большую активность, чем прежде: 206 из 363 зарегистрированных кандидатов в депутаты представляют ту или иную партию. Соответственно, по сравнению с выборами в парламент в 2008 году, уменьшилось и число безальтернативных округов - с 16 до 4. А главное, к участию в выборах допущены 110 оппозиционеров - как раз столько всего мест в Палате представителей.

Игры в либерализацию, видимо, продолжатся и на этапе агитации, когда оппозиционерам ненадолго предоставят право общаться с избирателями. Центризбирком (ЦИК) гарантировал всем кандидатам возможность агитировать буквально с момента их регистрации. Пожалуй, вот на этой стадии либеральные вольности и закончатся.

### Западня для оппонентов

Режим Лукашенко надеется в очередной раз одержать «элегантную победу», переиграв оппозиционеров, обещавших снять свои кандидатуры накануне голосования в знак протеста, если к тому моменту не будут выпущены на свободу политзаключенные. Такое решение о досрочном снятии всех своих 35 кандидатов в депутаты уже приняла Объединенная гражданская партия (ОГП). Аналогичной тактики собирается придерживаться и Партия БНФ, от которой зарегистрировано 30 кандидатов, а также кампания «Говори правду!» с 13 кандидатами.

Но поскольку для белорусской власти формирование послушного парламента важнее, чем оценка избирательной кампании Брюсселем, политзаключенные пока останутся за решеткой в качестве заложников. Зато несколько десятков оппозиционеров досрочно и добровольно покинут предвыборную гонку, увеличив тем самым количество безальтернативных округов, чем воспользуются провластные кандидаты.

### Либерализация откладывается

С учетом того, что среди 69 тысяч членов участковых комиссий всего 61 представитель оппозиционных партий, выборы пройдут по заранее расписанным властями ролям для всех участников. В том числе и для уже обвиненных в предвзятости наблюдателей от ОБСЕ, и для российских политиков с их обещаниями «не дать Беларусь в обиду». Даже для белорусских избирателей подобрано нужное амплуа - бессловесного исполнителя.

Европейских политиков, которые осенью будут наблюдать также и за парламентскими кампаниями на Украине и в Грузии, на белорусскую сцену пока не зовут. Но не исключено, что сразу после выборов Минск пригласит их поучаствовать в своем очередном спектакле с названием «Хочу дружить с Европой».

**Наталья Макушина, DW.de**

УСХОДНЯЯ СУСЕДКА

# РАСІЯ Ў СГА: КРЫЖ НА БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ

ТАКІМ ЧЫНАМ, 22 ЖНІЎНЯ СКОНЧЫЛАСЯ 17-ГАДОВАЯ ЭПАПЕЯ З УСТУПЛЕННЕМ РАСІІ Ў СУСВЕТНУЮ ГАНДЛЁВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ. УЛІЧВАЮЧЫ НАЯЎНЫЯ Ў БЕЛАРУСІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫЯ АБАВЯЗКІ Ў РАМКАХ МЫТНАГА САЮЗА З КАЗАХСТАНАМ І РАСІЯЙ, МОЖНА СЦВЯРДЖАЦЬ, ШТО ЎСТУПЛЕННЕ АПОШНЯЙ У СГА МАЕ ІСТОТНАЕ ЗНАЧЭННЕ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ. НОРМЫ І ПРАВІЛЫ СГА БУДУЦЬ ЗМУШАЦЬ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ РЭФАРМАВАЦЬ ІСНУЮЧУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ МАДЭЛЬ. АДНАК ЦІ ЗБІРАЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА ГЭТЫМ НОРМАМ І ПРАВІЛАМ?

### Што азначае ўступленне Расіі для Беларусі?

Пасля таго як Беларусь падпісала і ратыфікавала Дагавор аб функцыянаванні Мытнага саюза ў рамках шматбаковай гандлёвай сістэмы, уступленне Расіі ў СГА набыло для беларускай эканомікі асаблівае значэнне.

Паводле дамовы, стаўкі Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза не павінны перавышаць імпартныя мытныя тарыфы, пра якія Расія дамовілася з іншымі членамі СГА. Гэта значыць дамоўленасці Расеі з СГА па ўзроўні абароны ўнутранага рынку аўтаматычна становяцца абавязковымі для Беларусі. Да таго ж гэты дагавор прадугледжвае прыярытэт абавязацельстваў у рамках СГА перад абавязальніцтвамі ў рамках Мытнага саюза.

Такім чынам, Беларусь становіцца свайго роду «членам СГА напалову». Беларускі рынак павінен адкрыцца для імпарту з іншых краін СГА па мытных тарыфах Расіі. Аднак беларускі экспарт не атрымлівае аналагічных з расійскім льгот на рынках СГА. Больш за тое, не будучы членам арганізацыі, Беларусь не мае доступу да існуючых ў СГА механізмаў дазволу гандлёвых спрэчак.

### Нялёгкія перспектывы

Сяброўства Расеі ў СГА азначае, што беларуская прадпрыемствы сутыкнуцца з нарастаючым канкурэнцыяй і, як следства, дадатковымі цяжкасцямі для збыту прадукцыі.

Па дадзеных беларускага МЗС, па больш чым тысячы таварных пазіцый тарыфныя абавязацельствы Расіі перад СГА павінны быць зніжаны на 7-15% у параўнанні са стаўкамі Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза. З іх 50 пазіцый з'яўляюцца адчувальнымі для Беларусі. Яшчэ па прыкладна паўтары тысячам пазіцый новыя тарыфныя абавязацельствы ніжэй старых тарыфаў на 4-6,5%. Для Беларусі адчувальнымі тут з'яўляюцца больш за 160 пазіцый.

Пры гэтым змена тарыфных ставак адбудзецца не ў адзін момант. Згодна з дасягнутымі Расеяй дамоўленасцяў, прадугледжваецца пераходны перыяд, на працягу якога стаўкі павінны дасягнуць ўзгодненага ўзроўню. Для розных груп тавараў гэты перыяд розны: ад двух да сямі гадоў.

Таму і беларускія вытворцы будуць сутыкацца з канкурэнцыяй, якая расце паэтапна. Паводле вынікаў сумеснага даследавання Нямецкай эканамічнай групы ў Беларусі і Даследчага цэнтра ІПМ, першым «пад раздачу» трапіць грузавое аўтамабілебудаванне. Бліжэй да заканчэння пераходнага перыяду істотны рост канкурэнцыі адчуюць вытворцы седлавых цягачоў, грузавікоў, тэлевізараў, халадзільнікаў, фармацэўтычнай прадукцыі, а таксама вырабаў для транспарціроўкі або ўпакоўкі тавараў з пластмас.

Да нялёгкіх перспектывах беларускай эканомікі можна дадаць і яшчэ адзін фактар. Пасля далучэння да СГА Расія тэарэтычна становіцца больш цікавай для замежных інвестараў.

Калі не ўмяшаюцца іншыя абставіны, то можна чакаць актывізацыі інвестыцыйных укладанняў у прадпрыемствы расійскай юрысдыкцыі. Гэта будзе спрыяць мадэрнізацыі эканомікі Расіі, у выніку чаго Немадэрнізаваныя беларускім прадпрыемствам будзе яшчэ больш складана канкураваць у рамках Адзінай эканамічнай прасторы.

У сваю чаргу, Расія не здольная стаць лакаматывам мадэрнізацыі для Беларусі. Такую ролю магла б адыграць Еўропа, але адносіны з ЕС у Мінска горш няма куды, і ў раптоўна іх не папраўіш.

### Канец беларускай эканамічнай мадэлі?

Па-за залежнасці ад таго, якія таварныя групы і ў якой ступені сутыкнуцца з якая расце канкурэнцыяй, глабальнае значэнне ўступлення Расеі ў СГА заключаецца ў тым, што яно фактычна ставіць крыж на адыёзнай беларускай эканамічнай мадэлі.

Галоўнымі рысамі гэтай мадэлі з'яўляюцца рознага роду датацыі і ільготы, перакрыжаванае субсідаванне, выбарчае крэдытаванне пад дзяржаўныя гарантыі, а таксама паўсюдна распаўсюджаная адміністрацыйнае размеркаванне і перараразмеркаванне рэсурсаў. Усе гэтыя эканамічныя звычкі цалкам супярэчаць прынцыпам СГА, а ў сённяшніх умовах - і дэкларуемым нормам Адзінай эканамічнай прасторы.

Таму, калі Беларусь будзе выконваць узятыя на сябе абавязацельствы, то ад асноў беларускай эканамічнай мадэлі, якой да гэтага часу па звычцы ганарыцца Аляксандр Лукашэнка, прыйдзецца адмовіцца. Аднак ёсць падставы сумнявацца, што беларускія ўлады збіраюцца выконваць свае абавязацельствы.

**Яўген Прэйгерман.**

*Чытаць цалкам:* http://naviny.by/rubrics/economic/2012/08/28/ic_articles_113_178990.



ПРАБЛЕМЫ РАЗВІЦЦЯ

# ЭКАНАМІЧНАЯ РЭФОРМА: МАРУДЗІЦЬ НЕЛЬГА?

У АПОШНІ ЧАС ДЗЯКУЮЧЫ "ЕЎРАПЕЙСКАМУ ДЫЯЛОГУ АБ МАДЭРНІЗАЦЫІ З БЕЛАРУССЮ" ВЯДЗЕЦЦА ШМАТ РАЗМОЎ ПРА ТОЕ, ЯКІЯ ЗМЕНЫ ПАТРЭБНЫЯ КРАІНЕ, ЯК ІХ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЬ І ЯКІЯ ПРАБЛЕМЫ МОГУЦЬ УЗНІКНУЦЬ НА ШЛЯХУ РЭАЛІЗАЦЫІ РЭФОРМАЎ. ПРЫ ГЭТЫМ СЯРОД ЭКСПЕРТАЎ І АПАЗІЦЫЙНЫХ ПАЛІТЫКАЎ НЯМА АДЗІНАГА МЕРКАВАННЯ АБ ТЫМ, ЯК ПРАВОДЗІЦЬ ПЕРАЎТВАРЭННІ: ХУТКА АБО ПАСТУПОВА. ЦІ ТРЭБА СПЯШАЦЦА ПАВОЛЬНА?

Прыхільнікі паступовых зменаў паказваюць на правальны расійскі вопыт - шокавую тэрапію Ягора Гайдара. З аднаго боку, іх меркаванне зразумела - у памяці беларусаў трывала заселі расійскія падзеі 90-х гадоў: рэзкае падзенне ўзроўню жыцця, інфляцыя, забастоўкі шахцёраў і бандытызм.

Але, з іншага боку, працэсы, якія праходзілі ў Расіі, маюць мала агульнага з мадэрнізацыяй. Па сутнасці, рэфармаванне эканомікі так і не было ажыццёўлена. Прапанаваныя рэформы былі альбо праведзены часткова, альбо і зусім не пачыналіся. Па сутнасці, тыя крокі былі накіраваны на пераход не да рынкавай эканомікі, а да пераразмеркавання ўласнасці на карысць некаторых асоб.

**Калі звярнуцца да еўрапейскага вопыту, то хуткім шляхам мадэрнізацыі пайшлі такія краіны, як Польшча, Чэхія, Эстонія, з 1997 года да іх далучылася Славакія.**

Паступовую мадэрнізацыю аддалі перавагу Балгарыя і Румынія. Шмат у чым выбар гэтага шляху тлумачыўся боязню урадаў страціць уладу з-за адмоўнай рэакцыі грамадства на рэформы. Але, як аказалася, такая палітыка рэфармаў у гэтых краінах ўспрымалася насельніцтвам найбольш балюча і негатыўна.

Атрымліваецца, што краіны, якія прайшлі хуткую мадэрнізацыю, апынуліся ў выйгрышным становішчы. Гэта пацвярджаецца словамі спецыяліста па пераходным эканомікам Андэрса Ослунда: «Вельмі многія выступалі за павольныя рэформы. Краіны, якія пачалі хуткія рэформы, выйгралі ».

**Цягнуць гуму - для Беларусі гэта раскоша**

Акрамя ўсяго іншага, у Беларусі ёсць шэраг сваіх уласных фактараў, з-за якіх павольны шлях рэформаў можа прывесці да іх правалу.

Па сваёй сутнасці паступовае рэфармаванне эканомікі магчыма толькі пры наяўнасці спрыяльных умоў: эканамічная стабільнасць, падтрымка рэформаў насельніцтвам і адсутнасць знешніх фактараў, якія негатыўна ўплываюць на мадэрнізацыю.

У Беларусі гэтыя ўмовы адсутнічаюць. Найбольш спрыяльны перыяд скончыўся ў сярэдзіне 90-х, зараз жа любая рэформа ў большасці выпадкаў будзе ўспрымацца негатыўна.

Самай балючай тэмай стане рэфармаванне сістэмы льгот і субсідый. Беларусы прызвычаіліся да таннага грамадскаму транспарту, недарагім паслуг ЖКГ, адносна бясплатнай медыцыне і дзяржаўным рэгуляванні коштаў.

Усё гэта шмат у чым забяспечваецца таннымі энерганосьбітамі, якія Крэмль дае за саступкі. Аднак хутка ўжо і саступаць будзе няма чаго, ці застануцца тады танныя нафту і газ?

**Расійскі біч**

Менавіта нафтавае пытанне можа стаць адным з галоўных падстаў, каб прыняць хуткі шлях рэалізацыі пакета рэформаў. Масква стамілася ад пастаяннай грашовай падтрымкі Беларусі. У апошні час намёкі аб неабходнасці рэфармавання беларускай эканомікі гучалі з вуснаў расійскіх кіраўнікоў неадназова.

Аднак пра якія менавіта рэформах ідзе гаворка - незразумела. Пакуль каменем перапоны паміж Менскам і Масквой застаюцца пытанні прыватызацыі. Так, тэма зліцця МАЗа і КамАЗа, таксама продаж беларускай калійнай галіны ў карысць Расеі застаюцца аднымі з галоўных у дыялогу паміж кіраўнікамі дзвюх краін.

Акрамя гэтага, расійскі пасол Аляксандр Сурыкаў неадназова ўздымаў пытанне аб увядзенні ў Беларусі расійскага рубля. У такой сітуацыі краіна фактычна страціць эканамічную незалежнасць.

Да таго ж эканоміка самой Расеі мае патрэбу ў рэформах, бо ў выпадку абвалу коштаў на нафту яна можа пайсці на дно. Аднак да рэальнай мадэрнізацыі расейскі ўрад прыступаць не спяшаецца.

Такім чынам, аб пераходзе да паўнавартаснай рынкавай эканоміцы з дапамогай Расеі казаць не прыходзіцца. Да таго ж, улічваючы цяперашняе закручванне Крамлём гаек у палітычнай сістэме, няцяжка выказаць здагадку, што пра дэмакратызацыю Беларусі з дапамогай ўсходняй суседкі прамовы таксама ісці не можа.

У выпадку, калі мадэрнізацыя будзе праходзіць не па сцэнары Крамля, могуць узнікнуць вялікія праблемы. Для вяртання Беларусі ў еўразійскі праект Масква можа выкарыстаць наяўныя ў яе рычагі ўздзеяння: танныя энерганосьбіты і доступ да рынку. Калі Расею не будзе ладзіць ход і напрамак рэформ, Мінск можа страціць і тое, і іншае.

У такім выпадку паўстане неабходнасць хуткай пераарыентацыі знешняга гандлю і пошуку новых партнёраў. Калі мадэрнізацыя будзе расцягнутая, то вырашыць гэтае пытанне паспяхова не атрымаецца.

Да таго ж эканоміка краіны і так неканкурэнтаздольная: нізкая прадукцыйнасць працы, малы працэнт высокатэхналагічных вытворчасцей (цяпер у прамысловасці іх доля складае 4,4%) і адсутнасць інвестыцый. Паводле разлікаў Мінэканомікі, для развіцця прамысловага комплексу неабходна 90 млрд. даляраў. Калі праводзіць рэформы павольна, то адставанне эканомікі Беларусі толькі пагоршыцца.

Таксама, акрамя знешніх прычын выбару хуткіх рэформаў, існуе шэраг ўнутраных. У Беларусі дастаткова моцныя групы, якія не зацікаўлены ў рэформах і ўсяляк будуць супрацьстаяць пераходу да паўнавартаснай рынкавай сістэме: аграрнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў і мясцовыя ўлады. Чым даўжэй будуць расцягнутыя рэформы, тым больш магчымасці сабатаваць іх і паўплываць на вынік.

Вострай праблемай для Беларусі таксама з'яўляецца пытанне ўцечкі мазгоў. Калі хутка не вырашыць сітуацыю, то наступствы апынуцца сумныя. Досвед трансфармацыі іншых краін дае нам магчымасьць пераканацца ў гэтым ...

**Мікіта Бяляеў.**

ВЫНІКІ РЭГІСТРАЦЫІ

# АДСЕЯЛІ КОЖНАГА ЧАЦВЁРТАГА

КАНДЫДАТАМІ Ў ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ, ВЫБАРЫ ЯКІХ ПРОЙДУЦЬ 23 ВЕРАСНЯ, ЗАРЭГІСТРАВАНЫ 362 ЧАЛАВЕКІ, ПАВЕДАМІЛА СТАРШЫНЯ ЦЭНТРВЫБАРКАМА ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА ВЕЧАРАМ 23 ЖНІЎНЯ Ў ЭФІРЫ ТЭЛЕКАНАЛА «БЕЛАРУСЬ-1».

Усяго прэтэндэнтамі ў кандыдаты ў дэпутаты на 110 выбарчых акруг вылучаліся 494 чалавекі.

Тыдзень таму Ярмошына ў гутарцы з журналістамі выказала меркаванне, што колькасць прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, якім будзе адмоўлена ў рэгістрацыі, можа стаць даволі значнай. Такім чынам, у рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты было адмоўлена кожнаму чацвёртаму прэтэндэнту.

У большасці акруг рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты адбылася 22 жніўня.

Рэкамендацыя правесці рэгістрацыю кандыдатаў у адзін дзень зыходзіла ад Цэнтрвыбаркама. Паводле слоў Ярмошынай, «зарэгістраваць усіх кандыдатаў адначасова неабходна, каб ніхто не гаварыў, што хтосьці быў у няроўных умовах для правядзення агітацыі».

Падрабязнасці аб выніках рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Ярмошына паведаміць на прэс-канферэнцыі 24 жніўня.

Ужо вядома, што кандыдатамі ў дэпутаты зарэгістраваны 35 з 48 прэтэндэнтаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, 30 з 33 — Партыі БНФ. У прыватнасці, этап рэгістрацыі паспяхова прайшлі лідары Партыі БНФ і АГП Аляксей Янукевіч і Анатоль Лябедзька, былыя дэпутаты парламента Валерый Фралоў і Уладзімір Навасяд, намеснікі старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і Аляксандр Стральцоў.

Не былі зарэгістраваны лідар руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, прадстаўнік кампаніі «Гавары праўду!» Міхаіл Пашкевіч і іншыя вядомыя апазіцыйныя палітыкі.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

# ІТАЛЬЯНСКІ ІНВЕСТАР ПАКІДАЕ БЕЛАРУСЬ З-ЗА КАРУПЦЫІ І БЕЗЗАКОННЯ

ІТАЛЬЯНСКІ БІЗНЭСМЭН МАШЫОЛА КАТУЛА, ЯКІ ПРАЖЫЎ 11 ГАДОЎ У БЕЛАРУСІ, РАСПАВЁЎ ПРА ТОЕ, ШТО Ў РЭЧАІСНАСЦІ ЧАКАЕ Ў НАШАЙ КРАІНЕ ЗАМЕЖНЫХ ІНВЕСТАРАЎ.

**Аб няўдалым праекце «Біалеці Брэст»**

- Змена майго менталітэту ў дачыненні да бізнесу ў Беларусі пачалася з закрыцця буйнога інвестыцыйнага праекта кампаніі «Біалеці індустрыі». Я быў у той час генеральным дырэктарам міжнароднага інвестыцыйнага праекта. Для яго рэалізацыі быў прапанаваны будынак радыётэхнічнага завода. Спачатку прапанавалі цану 600 тыс. даляраў. Праз паўтара дня пералічылі і прапанавалі новую цану - 800 тыс. даляраў, а яшчэ праз некалькі дзён - 1 млн. 200 тысяч. Інвестар пачаў нервавацца. Тады яму прапанавалі вельмі добрае месца на «Цветатроне» - вялікі цэх. Але аказалася, што на гэтыя плошчы яшчэ раней знайшлися прэтэндэнты. Гэта было падобна на сітуацыю, выяўленую ў прымаўцы: пускаць пыл у вочы. Тады мы (я маю на ўвазе Брэст) згубілі «Біалеці». Францвэска Ранцоні перавёў свой бізнэс у Турцыю.

Там яму падарылі (!) будынак плошчай 20 тыс. кв. м. Яны сказалі: рабі што хочаш, але адкрый 500 працоўных месцаў.

**Пра кантэйнерны цягнік «Марка Пола экспрэс»**

Праект па арганізацыі кантэйнерных перавозак грузаў цягніком «Марка Пола» па маршруце Портагруара - Брэст стартаваў у сакавіку 2010 г. Але ён спыніўся на пачатковым этапе.

- На гэтым нясклаўшымся праекце італьянская лагістычная кампанія страціла 120 тыс. даляраў. Атрымалася, што з Італіі гэты цягнік заўсёды ішоў поўны, а з Беларусі - заўсёды пусты. Чаму? Маё меркаванне: таму што ў Брэсце ёсць важныя людзі, якія з-за роднасных сувязяў лабіруюць экспедыцыйныя фірмы. Калі загрузіць цягнік - фуры не працуюць. Думаеце, у Італіі гэтага не разумеюць? Пасольства Беларусі ў Італіі дае такую статыстыку: у 2012 годзе экспарт Беларусі ў Італію павялічыўся ў 2,2 разы, а экспарт Італіі ў Беларусь - у 3,9 разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Транспарціроўка ўсяго тавару дае 60 млн даляраў. Што, гэты тавар ідзе «пешкі»? Вядома, на фурах. Гэта пры тым, што перавозка тавару адной фурай з Італіі ў Беларусь, каштуе 4500 еўра, а цягнікам - 1,5 тыс. еўра. Усё гэта па меншай меры дзіўна, таму што любая дзяржава ў першую чаргу думае аб сваіх інтарэсах і ўжо потым - пра інтарэсы прыватных асоб.

**Пра тое, як здзяйсняецца правасуддзе**

Я ўжо больш за 10 гадоў жыву ў Беларусі, застаючыся грамадзянінам Італіі. Але да нядаўняга часу я не мог набыць тут ва ўласнасць кватэру, не маючы пасведчання на жыхарства. Вырашыў ўрэгуляваць жыллёвае пытанне з дапамогай адной з супрацоўніц. Я аформіў куплю кватэры ў адным з новых дамоў на вул. Маскоўскай на яе імя. Гэта абышлося мне ў 68 млн рублёў (у цэнах 2010 г.).

Але затым гэтая жанчына стала сцвярджаць, што набыла кватэру на свае асабістыя сродкі, і вырашыла яе прысвоіць. Я звярнуўся з заявай у пракуратуру аб прызнанні здзелкі несапраўднай. Разгляд доўжыцца больш за год.

У чэрвені гэтага года АУС Маскоўскага раёна Брэста паўторна вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Гэта пастанова была адменена намеснікам пракурора Маскоўскага раёна Брэста. Нягледзячы на тое, што першапачаткова гэтая жанчына прызнала мяне ўласнікам гэтай кватэры, і на іншыя важкія, з майго пункту гледжання, аргументы (у тым ліку матэрыяльнае становішча абодвух і яе ранейшую судзімасць, якую яна схавала ад усіх і ад міліцыі таксама), справа так і не зрушылася з мёртвай кропкі. Хоць, я мяркую, нягледзячы на крызіс і прыналежнасць канфліктуючых бакоў да той ці іншай дзяржавы, правасуддзе павінна адбыцца.

**«Вячэрні Брэст».**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 29.08.2012 у 17.40.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.